# Што робіцца ў Польшчы

## Як жывуць рабочыя і сяляне ў Польшчы.

Цяжка сабе ўявіць горшае жыцьцё, чымсь жыцьцё рабочых і сялян у панскай Польшчы.

Нездарма адна францускае пісьменьніца, якая прыяжджала ў мінулым годзе ў Польшчу, дала такую назву сваёй кнізе „Польшча—гэта пекла“.

Буржуазна-памешчыцкая верхавінка Польшчы на справе здолела ўтварыць сапраўднае пекла. Невялічкая жменька капіталістых бязьлітасна прыгнятае 27-мі мільённае жыхарства краіны. Польская прамысловасьць рушыцца, шмат фабрык і заводаў стаіць, а іншыя працуюць 2-3 дні ў тыдзень.

Палова прамысловых рабочых Польшчы знаходзіцца бяз працы. Нават і тыя з рабочых, якія працуюць, атрымліваюць невялікі, у параўнаньні з дарагоўляй, заработак пры 10—12-гадзінным рабочым дні.

Ня ў менш дрэнных абставінах знаходзіцца і сялянства. Зямлі ў большасьці сялян мала, падаткі-ж вялікія, ды, акрамя таго, мясцовая ўлада ўтварае над сялянствам, асабліва належачым да нацыянальных меншасьцяй (беларусы, украінцы), самыя бязьлітасныя зьдзекі.

Калі ў маі месяцы гэтага году маршал Пілсудзкі захапіў уладу ў свае рукі, нямала было такіх рабочых і сялян, якія падтрымлівалі гэтага „збавіцеля“ ў надзеі на палепшаньне свайго становішча.

Атрымалася-ж зусім ня тое, чаго чакалі працоўныя масы Польшчы. Польская буржуазія ў сувязку з вайсковымі падрыхтоўкамі распачала паход супроць рабочых і сялян усёй краіны: павялічваецца рабочы дзень ува ўсіх мясцовасьцях да 10-ці гадзін, а падаткі павялічваюцца на 25 проц.

## Вайсковыя падрыхтоўкі Пілсудзкага.

Здавалася-б: ці Польшчы разважаць пра вайну, ці ёй—разбуранай у гаспадарчых адносінах, з нявырашаным зямельным і нацыянальным пытаньнямі—распачынаць новыя вайсковыя замеры? Усё-ж такі ў Польшчы ў гэтым напрамку зноў непакойна.

Ня гледзячы на тое, што міністар замежных спраў пан Залескі і некаторыя газэты ня спыняюць гутаркі пра „мірныя“ замеры Польшчы, на справе ідзе новая, сьпешная вайсковая падрыхтоўка.

Маршалы, генэралы і міністры наладжваюць патайныя нарады з кіраўнікамі прамысловасьці і капіталістымі, і на гэтых нарадах падрыхтоўваюцца пляны да будучай вайны.

У Віленскае ваяводзтва перакінуты наймацнейшыя вайсковыя часткі польскай арміі—коньніца і артылерыя. Туды-ж накіравана да 80-ці тысяч польскіх „стральцоў“. Гэта поўвайсковыя саюзы фашыцкай моладзі. Яны атрымліваюць зброю і адзеньне ад вайсковага міністэрства, а іх вучаць афіцэры па пляну генэральнага штабу.

Сам Пілсудзкі захапіў у свае рукі ўсю вайсковую ўладу. Ён сам сабе прызначыў пасаду вайсковага міністра і генэрал-інспэктара польскай арміі, і ў гэтым сваім высокім званьні ён нават не адказвае перад парлямантам.

На працоўны друк, які выкрывае ўсе падрыхтоўкі Пілсудзкага, пасыпаліся цяжкія ганеньні. Газэты зачыняюцца і супрацоўнікі іх накіроўваюцца ў турмы.

## Праз Літву—супроць СССР.

Польскі ўрад цьвёрда вырашыў далучыць Літву да Польшчы. Аб гэтым далучэньні польская буржуазія і буйныя зямляўласьнікі ўжо мараць ледзь ня з першых-жа дзён існаваньня Польшчы.

У 1921 годзе польскаму генэралу Жэліхоўскаму ўдалося захапіць частку Літвы—Віленшчыну і далучыць яе да Польшчы пры падтрыманьні Францыі і Лігі Нацый. Цяпер Пілсудзкі пры дапамозе ўжо ня толькі Францыі, але і Англіі рыхтуецца захапіць і астатнюю частку Літвы.

Для чаго гэта патрэбна? Перш за ўсё Пілсудзкі хоча здабыць славу як адбудаўніка гістарычнай „адзінай, непадзельнай“ Польшчы, у склад якой некалі ўваходзіла і Літва. Але ня ў гэтым галоўная мэта захопу Літвы. Пляны Пілсудзкага і яго ангельскіх апякуноў ідуць шмат далей.

Літва—гэта маленькая краіна з насельніцтвам трохі болей 2-х мільёнаў, знаходзіцца на шляху супроць савецкіх плянаў ангельскіх імпэрыялістых і польскіх авантурыстых.

З усіх прыбалтыцкіх дзяржаў—Літва больш усяго мае прыхільнасьць да нас і азначаную варожасьць да Польшчы.

Вось чаму пілсудчыкі залязгаталі аружжам, вось зачым яны зараз сьцягваюць свае войска каля літоўскай мяжы.

Пры такім становішчы мы ня можам заставацца ў баку і спакойна глядзець на тое, што задумвае супроць нас пілсудшчына.

Барацьба супроць небясьпечнасьці вайны, барацьба не на словах, а на справе заўсёды была галоўнай асноваю замежнай політыкі Савецкага Саюзу. Гэта барацьба вызначае і нашу позыцыю ў адносінах да прыбальтыцкіх дзяржаў.

Сваю варожую да нас політыку прыбальтыцкія дзяржавы тлумачаць тым, што Савецкі Саюз моцны, а яны слабыя; што быццам бы Савецкі Саюз у любы час можа іх раздавіць, калі яны ня згуртуюцца паміж сабой.

Урад Саюзу ССР высунуў найлепшы доказ таму, каб зьнішчыць усе гэтыя небясьпекі.

Ён прапанаваў кожнай у паасобнасьці з азначаных дзяржаў утварыць умову аб узаемным няўмешніцтве, па прыкладу той умовы, якая ўтворана намі з Нямеччынаю і Турэччынай.

Здавалася-б, што цяжка знайсьці больш пэўную страхоўку супроць вайсковай небясьпечнасьці, ад каго яна-б ні выходзіла. Але тут выявілася ўся няшчырасьць нашых суседзяў.

Праўда, Польшча жадала-б утварыць *адну агульную ўмову* аб ненападзе, у якой-бы прымалі ўдзел толькі два ўдзельнікі: з аднаго боку—СССР, з другога—усе Прыбальтыцкія дзяржавы, разам узятыя.

Калі-б мы прынялі польскія прапановы, дык мы-б апынуліся перад тварам ужо аб'яднанага ворага, перад тварам цэлага варожа настроенага да нас саюзу, да ўтварэньня якога так упарта імкнецца ангельская і польская буржуазія.

Але мы на гэта пайсьці ня можам. Мы жадаем спакою, але мы ў належнай меры моцны, каб даць адпор усім нашым Прыбальтыцкім ворагам.

Няхай гэта падлічаць польскія паны, перш чым праз Літву працярэбліваць сабе шлях да СССР.

**Ю. Балсунскі.**




№ 15 | Жнівень 1926 г. | Менск

# Беларускі комсамол, за гармонік!

Эй гармонік, мой гармонік!
На ўсю вёску зазьвіні,
Комсамольскага статуту
Пазыч, Сьцёпка, на тры дні...

З. Бульбянік.

Мала, вельмі мала Беларускі комсамол гаворыць пра гармонік і мала робіць ім. Яшчэ і зараз слова „гармонік на службе комсамолу" выклікае, у лепшым выпадку, усьмешку на твары актывістага.

Мне прышлося чуць разважаньні некаторых актывістых пра гармонік, калі ў Маскве быў наладжаны зьезд гарманістых і запявалаў:

— Ну, што, сапраўды... рэжым эканоміі... а тут яшчэ адзін зьезд... а ну яго!

Ясна, што гэткія разважаньні неправіловы, у васаблівасьці ў нашай вёсцы, вёсцы ва ўмовах Беларусі патрэбен гармонік,—патрэбна „комсамольская вуліца", пра якую так дужа многа гутараць.

Возьмем ужо некаторую практыку нашага Рэфэсэраўскага комсамолу. Вось што піша таварыш з Арлоўшчыны:

„...паступова гармонік стаў сябрам і памоцнікам ячэйкі. Нават сам сакратар ячэйкі Сьмірноў і той здорава грае на гармоніку. Аднойчы гармонік дапамог ячэйцы правесьці ў сельсавет комсамольца. Справа была так: склікалі параду беспартыйнай моладзі. Сакратар ячэйкі з гармонікам накіраваўся ў школу. Моладзь за ім. Крыху паграў ён на гармоніку, потым адчынілі нараду. Беспартыйная моладзь вельмі ўважліва выслухала парадак дня. Урэшце аднагалосна вылучылі ў члены сельсавету Смірнова—сакратара ячэйкі".

Нашы вясковыя ячэйкі яшчэ не падышлі да гармоніка. Яшчэ не націснулі яны на кляпаны!

Цяпер няма чаго сумлявацца ў карысьці, у патрэбнасьці яго. Дый ніхто і ня будзе адмаўляць, што вёска, пачынаючы са старых і канчаючы моладзьдзю, любіць вясёлых хлапцоў. Уплыў і „аўторытэт" вясёлага гарманістага ў вёсцы моцны.

Беларуская вёска і яе комсамольская ячэйка ў адносінах выкарыстоўваньня гармоніку знаходзіцца ў добрых умовах. Вялікі лік частушак, прыпеўкаў, прыказак мы маем у народзе і ў літаратуры. Праўда, яшчэ ня ўсе частушкі пазьбіраны і выдрукаваны. Беларуская частушка з новым зьместам і мотывам мае сваю сьвежасьць і гульлівасьць; яна з посьпехам можа конкураваць з пахабнай частушкай нашай вёскі.

Адсутнасьць гармоніка ня толькі не дапамагае працы, а падчас і шкодзіць. Гэта пацьвярджае і сакратар вясковай ячэйкі, кажучы:

— Былі выпадкі, калі комсамольцы наладжвалі спэктакль на карысьць МОПР'у і Авіохіму, і калі гармонік адсутнічаў, дык і народу ня было.

У нашых умовах гармоньпытаньне ўпіраецца ў тры перашкоды:

*Першая перашкода*—гэта падчас адсутнічаньне гармоніка ў ячэйцы. Здараецца, што гармонік трапляе ў рукі кулацкіх сынкоў і, ня гледзячы на тое, што здабыцьцё комсамольскага гармоніку адыграла-б вялікую ролю, яе цяжка купіць.

*Другая перашкода*—гэта, калі маецца магчымасьць купіць гармонік, але ў той-жа час няма гарманістага.

*Трэцяя перашкода*—гэта няўмелае выкарыстаньне гармоніка.

Гэтыя тры моманты трэба вылучыць на абгавораньне комсамольцаў вясковых ячэек.

Мае прапановы гэткія:

Трэба практыкаваць склікаяньні раённых і па магчымасьці акруговых нарад гарманістых-комсамольцаў.

Політпрасьветам райкомаў і акругкомаў трэба зацікавіцца гэтым пытаньнем.

Гарманісты-комсамольцы павінны дзяліцца сваёй працай на старонках нашага друку. У сваю чаргу „Малады Араты" павінен вылучыць куток гарманістага на сваіх старонках.

Ужо пара падзаняцца пытаньнем аб выданьні зборніку частушак, песень і прыказак у дапамогу гарманістаму-комсамольцу.

Трэба пра гармонік больш гаварыць. Трэба, каб гармонік заграў на комсамольскай вуліцы беларускай вёскі.

Беларускі комсамол—за гармонік!

Б. Брадоцкі.

**Ад рэдакцыі**: Згаджаючыся з думкамі, выказанымі ў артыкуле т. Брадоцкага, рэдакцыя запрашае нашых супрацоўнікаў і ўсіх гарманістых дзяліцца сваімі думкамі на старонках „Аратага" аб іхняй практыцы і мэтодах працы, і адначасова дасылаць частушкі, якія сьпяваюцца ў вёсцы пад гармонік.

# КОМСАМОЛЬЦЫ *)

Апавяданьне А. Стэповага.

Вечар. У пакоях гандляра Івана Клочкі ціха— кожны заняты сваёю працаю.

Жонка вышла даіць карову; дзяўчынка і хлопчык гадоў 8-9, стоячы на каленях на скрыпучым заслончыку, нізка нахіліліся над сталом і пухкімі маленькімі пальчыкамі цьвёрда водзяць па тлустых літарах старога лемантара, шэпчучы штосьці пра сябе; сам Іван—брыты, з вялікімі рыжымі вусамі і шэрымі, бліскуючымі, трохі прыплюшчанымі вачыма—чытае газэту, пераліствае яе, асьцярожна складае яе ўчэцьвера, прыгладжвае валасатымі рукамі на каленях і, уткнуўшыся носам, зноў чытае, уважліва, спачатку да самага канца, нават ня мінаючы ніводнага слова.

Аднаму Сьцяпану няма чаго рабіць. Ён стаіць, прыткнуўшыся сьпіною да цёплай печы, і, калупаючыся ў шырокім носе пальцам, бязвыразным, мёртвым поглядам углядаецца ў невялічкае вакно. А калі ў сенцах зазьвінела шкло, ён пагультайску перавёў вочы на дзьверы, пасьля на скрыпку, што тут-жа вісела, падышоў, зьняў яе і, усеўшыся на заслончык, пачаў вадзіць смычком няўмелаю рукою.

Сам Іван зморшчыўся, прысунуў бліжэй да сябе газэту, пасунуўся на заслончыку і нічога не казаў. Але калі скрыпка піснула так галосна, што нават кот, што да таго часу спакойна спачываў на лаўцы пад вялікімі, бліскучымі абразамі, спуджана падняў галаву і спакойна абвёў пакой прыплюшчанымі вачыма,—Іван ня выцерпеў, кінуў газэту на стол і так глянуў на сына, што ў таго мімаволі скрыпка спусьцілася з грудзей на калені.

— Ты яшчэ доўга рыпаць будзеш?...

— Ды што-ж мне рабіць?.. Нічога...

— Сам ведаеш, што нічога... Хіба-ж для такога дурня праца ёсьць?

— Дык чаго-ж вы лаецеся?... Зараз-жа і лаецеся...

— Хваліць няма за што... Узяць хаця-б Сідарэнку Кузьму—хлапец даўно вучыцца, ужо хутка і скончыць... бо здолеў пралезьці. А ты калодаю сядзіш...

— Хіба-ж я вучыцца не хачу? Даўно казаў...

— Казаў, казаў... —перакрываў бацька. — Дык што з таго, што ты казаў?.. Трэба не казаць, а справу ведаць. Языком шмат ня зробіш... Вось злыдні, што ў комсамоле,—тыя вучацца, а табе, хлопча, ніколі дарогі ня будзе, калі сам яе ня знойдзеш...

— Дык дзе шукаць?.. Самі-ж кажаце, што мяне ня прымуць...

— Дурная твая галава! Слухай ня тое, што кажуць, а тое, што хочуць сказаць...—і прысоўваючыся да сына, загаварыў цішэй. —Трэба зрабіць так, каб ты ў комсамоле быў... Пралезеш, а там сьцежка сама павядзе...

Сьцяпан вытарашчыў на яго вочы.

— Дык мяне-ж ня прымуць!..

— Рабі тое, што я кажу!.. З хлопцамі пасябруйся, пазаві іх да сябе... Падлезь да Ганны Гарбачовай—яна ў іх, здаецца, заправілам... Ды глядзі, мяне што-б нічога там ня было... Разумееш?...

— Ды ўжо-ж... Толькі да яе і прыступіцца няможна...

— Пастаў сябе так, каб можна было... Ды што-ж ты—маленькі?—І, агледзеўшы сына з галавы да ног, злосна дадаў:

— Ня здолееш пралезьці,—выганю з хаты... Чуеш?

— Чую...

— Памятуй мяне... Спатыкнешся—не памілую, хаця і сын!..—І, перасеўшы да стала, зноў пачаў вадзіць чырвоным тоўстым носам па газэце.

А Сьцяпан сядзеў, насупіўшы бровы, украдкаю паглядаў на бацьку ў сьпіну і штосьці думаў.

* * *

— Сядайце!.. сядайце!.. Будзьце як дома— мы-ж ня чужыя!.. Вось дзякуем, што праведалі



А мы кажам, што Сьцяпана прымём у камсамол.

ды зашлі да нас... Сядайце вось тут!—круціўся каля хлопцаў, як сабака перад гаспадаром, Іван. Сваімі рукамі здымаў з іх шапкі і асьцярожна клаў на лаву.

Хлопцы мяліся, паглядалі адзін на аднаго, чырванелі ад такой ласкі і ўвагі самога Івана і нясьмела садзіліся на край заслончыкаў.

Высокая з белым тварам маці Сьцяпанава прыносіла з кухні і раскладала на стале яду—халодную і гарачую, ад чаго хлопцам стала яшчэ больш неякавата.

Сьцяпан вынес з другога пакою папяросы і частаваў імі хлопцаў.

Закурыўшы, адчулі сябе трошкі сьмялейшымі. Іван Клочка выбег хутка ў сенцы і праз некалькі хвілін вярнуўся з бутэлькаю ў руцэ.

— Памойму, трэба раней горла прамачыць, каб страва лепш лезла, а то яшчэ застране... Як вы, хлопцы?...

— Ды нічога... Мы і так.. — абазваўся адзін з іх, не паднімаючы галавы ад стала.

*) Пераклад з украінскае мовы.

— Няма чаго сароміцца... Ці можа баіцеся?.. Дык і баяцца няма чаго—цяпер пі, колькі ўлезе... Бо не для сябе ўлада гарэлку выпускала... Значыць, піць усім можна...

— Дык мы не баімося... Так... ня п'ем...

— Ха-ха-ха!... А яшчэ і маладыя!... На што-ж вы здатны?... А ну, Сьцяпан, пакажы, як парабкі п'юць!... — і ён паднёс сыну поўную чарку гарэлкі, усьлед-жа ня ўпрыкметку маргнуўшы.

Сьцяпан выцер рукавом губы, перавярнуў і, выпіўшы чарку да дна, трохі скрывіўся і пачырванеў.

Хлопцы паглядалі адзін на аднаго, нібы радзіліся... У кожнага ў галаве сядзела надаедлівая думка: „А ў самым дзеле, праўду кажа Іван... Чаму і ня піць яе, калі выпусьцілі?..“ І калі ветлівы гаспадар трохі нахіліў галаву, паднёс аднаму з іх чарку—ён узяў яе, яшчэ раз паглядзеў на астатніх і... выпіў.

Цяжка пачаць, а канец сам прыдзе. Кудысьці далёка-далёка, разам з гарэлкаю, паплылі словы сакратара райкому, які 3 месяцы таму назад як з'арганізаваў ячэйку, казаў, што піць комсамольцам нельга.

А Іван Клочка прынёс ужо 3-ю бутэльку.

— Э, чорт яго пабяры!.. Піць, дык піць!.. Добрым хлопцам гарэлкі ня шкода!.. Думаеце — я сьмяюся?

— Ды чаго там!.. — Гуртам адказалі хлопцы і, нібы пацьвярджаючы свае словы, памахвалі ўжо непаслухмянымі рукамі.

— То-та!.. А на мяне-ж дзівяцца, як на сібіраку якога... А хіба-ж я не такі, як і ўсе?..

— Ды хто кажа?..

— А от і кажуць, што Клочка людзей дурыць, кроў п'е... Хіба-ж ня крыўда, слухаючы?.. З раніцы да вечара нібы шалёны... круцішся... за капейку 3 дні галодны ходзіш... А на цябе скоса паглядаюць, як на злодзея... А хіба-ж я карысьці не даю?.. Вось вазьмеце: у таварыстве дзёгаць ёсьць?..— Няма.—Запалкі ёсьць?... — Няма... А ў мяне ўсё ёсьць... А што-б рабілі, каб і ў мяне ня было? А крычаць: „Кроў п'е!..“ Для іх-жа дбаеш—а яны цябе і лаюць!

— Хто-ж вас лае?... Хіба-ж такога чалавека, як вы, можна лаяць?.. Не дапусьцім!..—крычаў той, каго гаспадар частаваў першаю чаркаю. —Правільна кажу, хлопцы?

— А ўжо-ж праўду... — гуртам адказалі астатнія і клявалі носам аб стол.

— „Клюнула“,—падумаў пра сябе Іван Клочка і казаў далей: —Вось хаця-б і мой Сьцяпан... Ну, чым-жа ён не такі, як вы?... З вамі-ж вырас... разам... а ў комсамол няможна — бацька гандлюе. Дык хто-ж гандляваць не дае?.. Гандлюй ты, калі ахвоту маеш...

— Правільна!.. Ды хто кажа, што Сьцёпу ў комсамол няможна?.. Хто? — вадзіў пацямнеўшымі вачыма Хведар, што сядзеў пад самымі абразамі. — Я пытаю, хто так кажа?.. Га?.. — І, не дачакаўшыся адказу сам на свае словы, стукаючы кулаком па стале, крычаў далей: —А мы кажам, што Сьцяпана прымем у комсамол!.. Прымем!.. Правільна кажу, хлопцы?..

— Пр-р-р-равільн-н-н-а-а!.. — ківаючы галовамі, пацьвярджалі ўсе гуртам. А Сьцяпанаў сусед, што сядзеў з левага боку, на ўсё горла крыкнуў яму пад вуха:

— Чуеш ты?.. Прымема-а-а!..

— А можа-ж Гарбачова не захоча?...—нахіліўшы галаву на бок і хітра пасьміхваючыся, запытаў Клочка. — Яна-ж галава ўсяму?..



Галасуй!..

— Хто галава?.. Ганна?.. Не дачакае!.. У нас свае головы ёсьць... Правільна кажу, хлопцы?..

— Правільна!..

— Самі сабе головы... —трохі з гонарам дадаў Пятрусь, працягаючы непаслухмяную руку за чаркаю...

* * *

Далёка за поўнач зьвярталіся хлопцы дадому і галёкалі на ўсю вёску. Разбуджаныя крыкам бабы падыходзілі да вакон, прыслухоўваліся, лаяліся пра сябе і, пазяхнуўшы тройчы засап, зноў клаліся спаць. Толькі сабакі няўтомна брахалі, і адна з іх галасна скавытала, калі камень перабіў ёй нагу.

* * *

У пакоі накурана—дыхаць цяжка.

Дымам заслала столь, сьцены, портрэт Леніна і вузенькі кавалачак паперы, што вісеў поруч з ім, на якім чыясьці рука зялёным атрамантам вывела: „Сакратар Петракоўскай ячэйкі ЛКСМ“.

За нізкім крывым сталом сядзіць хлопец з кудлатаю шапкаю на галаве, а каля яго Ганна—сакратар Петракоўскай ячэйкі.

На лавах расьселіся астатнія, — іх усяго 10. Ганна штосьці гаворыць, але яе мала хто слухае.

Слухаюць толькі двое—каля самага стала. Сядзяць ціха і ўважліва слухаюць. Гэта—Сьцяпан і яго бацька.

Ганна гаварыла і путалася, бо іншыя думкі навязваліся адна за аднэй. Яна не магла зразумець паводзін хлапцоў, што да гэтага часу былі такія ціхія і заўсёды ўважліва слухалі, калі хто гаварыў. А цяпер нібы іх падмянілі. І ад такога пачуцьця мацней білася сэрца ў грудзёх, запяклося, пахаладзела, і неспадзявана для самой сябе яна абарвалася і... змоўкла...

Куды ёй было дадумацца, што хлопцы перад Іванам Клочкам даказвалі, што для іх Ганна.

— Наступнае пытаньне—прыём у саюз... Заява грамадзяніна вёскі Пятрыкоўкі—Клочкі, Сьцяпана Іванавіча... Зачытаць?... — запытаў старшыня.

— Ды навошта?... І так добра ведаем яго...— выкрыкнуў Хведар.

— Галасуй!..

— Прымем!.. — дадалі астатнія.

— Ды як-жа так, таварышы?.. Хіба-ж можна прымаць каго папала?.. Ён-жа сын гандляра!..

— Ну, дык што-ж?.. Ці-ж ён не такі, як і мы?.. Таксама на вёсцы вырас...—перарваў Ганну густым басам нізкі шыракаплечы хлапец.

— Ды навошта там гаварыць доўга... Галасуй!..—закрычала некалькі хлапцоў.

— Галасуй!..—гучна напіралі астатнія...

— Галасую!... Хто за тое, каб прыняць Сьцяпана Клочка?..

— Дзевяць...

— Хто супроць?..

— Ганна...

— Значыць, прынялі?...—запытаўся старшыня, зьвяртаючыся да сходу.

— А табе павылазіла, ці што?..

— Бачыш, што прынялі!..

— Так і запішам...—прагаварыў сабе пад нос


Ну, сядай... Зараз будзем выпраўляць...

старшыня і, абмакнуўшы пяром у атрамант, пачаў пісаць па жоўтай паперы, выдранай з якойсьці грашовай кніжкі.

Ганна яшчэ і цяпер ня верыла сама сабе. Хвалюючыся, падбегла да пярэдняй лавы і, бліскаючы вачмі, у вапошні раз зьвярнулася да хлопцаў:

— Не!... Так, таварышы, нельга!... Вы-ж у комсамол прымаеце, а не куды-небудзь!... Ён-жа!..

Ёй зноў не далі скончыць:

— Закройся!.. Годзе!..

— Ужо прагаласавалі!..

І яна зноў асталася адна.

Сьцяпан, які ўвесь час сядзеў напруджаны, цяпер пасьміхваўся і трактаваў хлапцоў папяросамі.

* * *

На трэці дзень Сьцяпан, спачатку заглянуўшы ў вакно з разьбітаю шыбаю, зайшоў у канцылярыю, дзе за сталом сядзеў Пятрусь Чубаты—тэхнічны сакратар ячэйкі.

— Здароў, Пятрусь!..

— Здароў...

— Гмм... Слухай, Пятрусь!.. У цябе ёсьць штонебудзь для перадачы ў райком, бо сёньня мой бацька едзе...

— Ага!... Вось, зараз!... Пачакай!... А я толькі што думаў пра гэта...

— Дык ты падрыхтоўвай хутчэй...

— Зараз... — І Пятрусь замятушыўся, рыючыся ў справах з адносінамі і дакумантамі. Адклаў пазаўчарашні протокол, Сьцяпанаву анкету і яшчэ якуюсьці паперку. Дастаў скрутак газэт, узяў адну, завярнуў у яе ўсю пошту і, надпісаўшы зьверху „Райкому ЛКСМ“, перадаў Сьцяпану.

У таго траслася рука, калі ён хаваў у кішэню пакет.

* * *

— Ну, што... прынёс?.. — запытаў Сьцяпана бацька, калі ён, задыхаючыся, убег у хату.

— Ёсьць... Вось яна!.. — і дастаўшы з кішэні пакет, разгарнуў на стале сваю анкету.

— Добра... Ну, сядай... Зараз будзем выпраўляць... Так... Слухай... Тут, дзе ты напісаў: „Бацька гандляр“—сьцяры... вось табе гума... а заместа гэтага напішы: „Бацька земляроб“... Так... Добра... Цяпер вось тут: „Дапамагаю бацьку гандляваць“...—сьцяры „гандляваць“, а напішы „гаспадарыць“... Так... Так...

Сьцяпан старанна выціраў адно і напісваў другое, а бацька тыкаў пальцамі, паказваючы яму, дзе што выправіць.

— А ў канцы напішы: „Г. Гарбачова“. Ды хвосьцік унізе пастаў, каб было падобна...

— Усё... — чаркануўшы ў апошні раз пяром па анкеце, сказаў бацька Сьцяпану.

— Ну, давай сюды... Цяпер, можна сказаць, ты ўжо і комсамольцам стаў... Бачыш, як лёгка... Гарэлка, брат ты мой, заўсёды сваё зробіць... То-та!.. Вучыся!.. — І ён пакляпаў сына па плячох.

А Сьцяпан, паглядаючы бацьку ў вочы, сьмяяўся.

* * *

Праз тыдзень у канцылярыю Пятрыкоўскай ячэйкі сельсавету сторож прынёс паперку з райкому:

| Слухалі: | Ухвалілі: |
|---|---|
| Прыём у саюз: 34-ы. Клочка Сьцяпан Іванавіч, 1905 году нараджэньня. Украінец, селянін-бядняк. | 34-ы. Зацьвердзіць сапраўдным сябрам саюзу. |

Сакратар райкому: (Кудраўскі).

* * *

А вечарам тую-ж зьмятую паперку Сьцяпан паказваў бацьку, і абодва моцна рагаталі.

*(Працяг будзе).*



# ВЕРШЫ



Ядвіга Бяганская.

## Аб сабе

... І я любіла край той дзікі,
Любіла шнур высокіх гор,
Любіла лес стары, вялікі,
Байкала люстра, сонца зор.
Тайгі суровай, дзікай, цёмнай
Любіла я тужлівы сьпеў:
У ім чула смутак я таемны,
У ім чула сьлёзы, радасьць, гнеў.
Кахала я Сібір далёкі,
Кахала,—у гэтым не таюся,
Бо я ня ведала ў ту пору,
Што край мой родны—Беларусь!

* * *

Бягуць гады, бягуць...
А бег іх хто стрымае?
Далёка прошласьць уцякае,
Быльлём старое парастае.
Гады бягуць, бягуць...
Бягуць гады, бягуць...
Зьмяняюць усё на сьвеце.
Закон бацькоў зьнішчаюць дзеці,
Што чцілась ўчора—сёньня ў сьмецьці.
Гады бягуць, бягуць...

* * *

Струменьнямі чырвонымі,
Сівізнай лёгкатканаю
Плывуць, плывуць узорныя,
Узорныя тканіны...

* * *

Там над імглістай пожняю
Туманам-белявінаю
Вісяць, вісяць мурожныя,
Мурожныя спавіны...

* * *

У змроку белазоравым
Над коўдраю мяккаваю
Грымяць, грымяць лазоравы,
Шаўковыя матывы!

Барысаўшчына.

**Арсені Пліска.**

* * *

Туман разьлёгся над лагчынай,
Паслаўся коўдрай па зямлі;
Як хусткай галаву дзяўчына,
Ён хаты вёскі атуліў.

* * *

Закрыў... Ня бачаць з далі людзі
Мужыцкіх заплясьнелых хат.
Няхай ў тумане погляд блудзіць,
Ня ўбачыш, нават, дзе страха.

* * *

Але-ж і там пад коўдрай шэрай
Жыцьцё пановаму бурліць,
Нібы ў тую цемру шэраг
Жыцьцёвых капель хто уліў.

* * *

Нібы-то з поўдня ветрык цёплы
У цемру вёскі праз туман
Прынёс шмат радасьці ў жыцьцё ёй,
Таксама і ў жыцьцё сялян!

Полаччына.

**Т. Хадкевіч.**

## Раніцаю на сенажаці

Эх, люблю, люблю
Мураву, расу!
Эх, вазьму, вазьму
Я сваю касу.
Ды пайду я з ёй
Па траве гуляць.
Няхай ручанькі
Мае не баляць.

Песьня раніцы
Рэхам коціцца.
Зойдзе ў даль, прастор,
Зноў вароціцца.
Ціхі ветрычак
Шапаціць ў лістох.
Ў маладым ляску,
Ў хмызьняку, кустох.

Эх, люблю, люблю
Мураву, расу.
Эх, вазьму, вазьму
Я сваю касу.

Случчына.

**А. Куколь.**

# Сказ пра Калістрата Музыку

Перада мною ліст, густа напісаны круглымі сінімі каракулькамі на вялізарным разьлінаваным аркушы з прыбыткова-выдатковай кнігі павятовага земства.

Я думаю, што ў гэтым бясхітрасным сяброўскім лісьце комсамольца Калістрата Музыкі кожны радок пасвоему каштоўны, і дзеля гэтага прыводжу яго цалкам. Вось ён:

**Беларускія тыпы.**



Сялянкі з Палесься.

*„Дарагі мой і паважаны сябра Пятрусь!*

Выбачай мне, што ад мяне ня было ні слуху ні духу за такі доўгі час. Мы разьвіталіся тады, пасьля майго шлюбу, і я табе ня мог пісаць доўга праз тое, што быў ад белай раніцы і да чорнай ночы заняты больш, як на 100 проц. А цяпер я зусім вольны, нават вельмі вольны, і адны мае заняткі—гаспадарчая справа ды вядомая табе жонка Кацярына.

Цяжка майму гарачаму сэрцу дыктаваць, а руцэ пісаць табе пра гэткае паведамленьне, але 6 чэрвеня я вышаў з нашай ячэйкі, і няма ўжо больш, дарагі Пятрусь, у нашай сельячэйцы актыўнага сябра Калістрата Музыкі.

Няма мяне там, і таму я такі вольны, хаджу па зямлі, усё роўна як мэланхолік, ня бачачы з-за гэтай праклятай свабоды ніякага сьветлага жыцьця, розныя праступныя цёмныя думкі жыцьця не даюць мне.

Табе вядома, што як папаў я ў 1925 годзе ў сапраўдныя сябры, так запрогся я адразу, як конь ардэнскай пароды. Уся справа была спачатку вельмі прыгожаю, і я павёз сваю цяжкую фурманку з вялікім сьвядомым гонарам. Я яе вёз, а ў ёй ляжалі: і піонэрскі атрад, і сяброўства маё ў бюро, і сувязь з хутарамі там ляжала. Я ўсё яе вёз і ніколі нават не спатыкаўся.

Але вось пачынаю я бачыць, што бацька мой ад працы ўжо сінее і жывата зусім не адчувае, а гаспадарка наша пачынае ўсыхаць. Ты сам ведаеш, дарагі Пятрусь, што мой бацька—гэта адзіны чалавек: надрываецца, але нікому ня скажа. Гэта значыць, калі сыну ў ячэйцы нагрузка—ідзі, мы за цябе адпрацуем! І моўчкі ўсё гэта рабілася, нават з ухмылкаю. Магу сказаць, калі-б усе бацькі такія былі, дык даўно соцыялізм на зямлі працьвятаў-бы.

Кацярына, вядома, таксама маўчыць, аднак бачу—твар бялее, плечы як шыльля сталі, і ў нутры яе ўздымаецца супроць мяне абурэньне.

І вось рвуся я кожную вольную гадзіну да працы, гаспадарку паднімаць, а тут, як на злосьць, кампаніі з раёну розныя абʼяўляюць адна за другою. А ўрэшце ўзялі дый падкінулі мне ў маю фурманку ўсіх высялковых батракоў. Я ўжо тут ня вытрымоўваю і пачынаю прасіць: аслабанеце!

Сакратар бяз усякай увагі, бюро таксама.

**Беларускія тыпы.**



Сяляне паляшукі.

Я маліў і ўпрашваў затым, што вясна якраз надышла, а сходы ў нас звычайна пачыналіся а 9 гадзіне вечара і канчаліся ў *2* гадзіны ночы, дык адтуль заставалася дамоў бегчы, запрагаць каняку ды ехаць на працу.

І пачыналіся тут, дарагі сябра Пятрусь, мае мукі! Бацька з скуры пнецца, Кацярына з ім, а тут суседзі падбухторваюць: што вось—глядзі, твой Калістрат з дзецьмі днём у барабан лупіць ды па хутарох, усё роўна як шалёны, лётае, цэлыя ночы ў ячэйцы сваё горла дзярэ; няма ў яго да цябе нават ніякіх жаночых любоўных адносін, а ты пнешся, ня гледзячы на тое, што ты з вялікім жыватом.

І прызнаюся я табе, верны мой сябра, што закалацілася тады маё комсамольскае сэрца, і пачалася ў ім барацьба літасьці і дысцыпліны. Перамагла ў мяне літасьць дысцыпліну,—літасьць да свайго бацькі і Кацярыны, якія ня кажуць, а вокам глядзяць, і яшчэ літасьць да распаду маёй сельскай гаспадаркі.

Я ўзяў ды паехаў жаць яравое, а да батракоў не пашоў. А пасьля зноў піонэрскую экскурсію пакінуў ды на полі за бульбу ўзяўся.

І тады, як капаў, дык уся мая душа была палыноўкаю залітая. Думаў я якраз пра тое, як-бы паглядзеў на такі мой учынак дарагі наш настаўнік Ленін і куды я іду супроць правільных заветаў. А тут, дарагі Пятрусь, якраз падышлі мае піонэры з сьцягамі ды барабанам і з такою літасьцю глядзяць на мяне, чакаюць.

Кінуў я рыдлёўку і памчаўся проста ў ячэйку. З цьвёрдаю просьбаю падходжу я да хлапцоў і прашу, каб вызвалілі мяне на летні час ад батракоў і хутароў, а піонэраў—калі ласка. А яны мне тут адразу строгі выгавар.

Крыўдна мне стала, я палаяўся з імі, ускочыў на кабылу і памчаўся ў райком наш з крыўдаю і просьбаю. Але там, дарагі Пятрусь, як вызьвярыцца на мяне сакратар і, неразабраўшыся ў чым справа, калі гаркне такія словы: такія вось асобы, што дысцыпліны ня трымаюцца і другіх гэтым разлагаюць, партыі непатрэбны і з імі не палічацца.

І тады я паехаў і вельмі доўгі час мучыў свайго каня па розных дарогах, а калі вярнуўся ў ячэйку, сказаў хлопцам: можаце ня лічыць Калістрата Музыку сябрам, ён выступае з Комсамолу...

Вось ўсё гэта, што хацеў табе растлумачыць, дарагі Пятрусь, пра тое, як я стаў вольны, і прашу я цябе цяпер, як адзінага брата і жалезнага партыйца, адказаць мне на маё пытаньне: як мне трэба было паступіць паправільнаму, што мне цяпер рабіць!

Я цяпер непадобен нават на чалавека, і хаця ўсёй сілаю трымаюся за грамадзкую працу, але сэрца маё гарыць і сохне, мітусяцца ў маёй галаве цёмныя, ганебныя думкі, і тыкаюся я навокал, як мурашка, якая выкінута з роднага муравейніка.

Пасьля ўсяго, бывай здароў, дарагі Пятрусь. З сяброўскім і братэрскім прывітаньнем *Калістрат Музыка*".

Я спадзяюся, што гэты ліст кажа сам за сябе і дадаткаў не патрабуе, але над ім варта прызадумацца.

Няхай у кожнай вясковай ячэйцы падумаюць, ці добра ў іх увязана грамадзкая праца з працай комсамольца ў сваёй сялянскай гаспадарцы. І ці няма яшчэ па-за шэрагамі Комсамолу гэтакіх здатных хлапцоў, як Калістрат Музыка, якіх належыць мець у комсамольскіх шэрагах.

**В. Ахрыменка.**

# „ГЕНЭРАЛЬША“

## Або цікавыя і няцікавыя здарэньні

Колькі хочаце „агіціруйце“ мяне, што ў гэтым разе нешта павінна быць адно: цікавае або няцікавае—усё роўна не згаджуся з вамі. Хіба заключнага слова на дасьце (а гэта рэдакцыя зрабіць можа: ня ўлазіць матэрыял у пэўнае абмежаванае месца). Такім ужо упартым, ліха яму, і матка нарадзіла мяне. Бо з першых-жа дзён майго вызваленьня макам пачала паіць, каб зьменшыць упартасьць. Вы яшчэ можаце падумаць, што я й цяпер п'ю. Не, крый мяне Дзяржсьпірт! Горкая, ліха ёй. Яшчэ, каб, скажам, малому, можа-б як-небудзь з суслай і ўвагнаў напарстак гэтай самай гор... не, ня туды заехаў,—маку гэтага.

Бывае ўжо так прыпруць: „Выпі, выпі!“ Смаліцай ў вочы лезуць, а тут, як чорт у грэблю, упруся і хоць ты мне с... ваду лі ў вочы.

Помню, гэта аднаго дня (ці ночы?) радзіны гулялі ў суседа. Ну, як суседу ды я прыходжуся суседам, дык, знацца, ясная справа—тарчаць павінна была і мая там барада. Тарчаць, дык тарчаць, што, як той казаў, зробіш. Тут, знацца, я ні пры чым: сусед—раз, радзіны два.

І ці дасьце вы веры: па той раз зарокся хадзіць, знацца, на гэтыя самыя вып... ім-м... Тут я хацеў крыху апавяданьня ўкрасьці ад вас, але-ж, для таго дзеля як я сам дрэнны зусім (гэта значыць, не кваліфікаваны) злодзей, дык з гэтага квасу ніякага піва й ня вышла. Украў, але ня добра схаваў. Узяў (я ўжо лепш даканчу) гэта я ды трынкнуў, я-ж невінаваты: сусед—раз, радзіны—два. А як трынкнуў з няпрывычкі, дык і пачала мая галава полечкі вытылінгваць. І зрабілася мне так весела, што аж успомніў я свае юнацкія гады самых грозных і буйных сцэн. Бывала, як быў я дзяцюком, хто лепш за мяне біў навотлю каму-небудзь?—Я! Хто мог адзін усіх хлопцаў-навабранцаў суседняй вёскі ў казіны рог загнаць, калі яны прыходзілі да нас на ігрышча?—Я. І мне так захацелася зрабіць гэта цяпер, што я аж кулак ужо скамячыў, ды... забыўшыся аб усім—трах ім па галаве свайго шваргa... А той, доўга ня думаючы, ды за бараду.

Эх, дзеткі мае, толькі тады я й бачыў сваю бараду. Па каліву растрэслася яна па хаце, пакуль разабраліся мы з шваграм, за што і што.

Ого, што бывала. Цяпер наша моладзь ня тое; разумнеюць людзі, і сьвет мяняецца. А думаеце, праўду кажучы, дабро гэта было нам праводзіць свае маладыя гады?—Куды там. Але так яно спрадвеку жылося і рабілася,—калі малады, значыць павінен паказаць сваю рызыку.

— Дык гэта ўсяго і было цікавага або няцікавага?—нехта ўжо зьбіраецца з вас запытаць у мяне.

— Не, не, ня бойцеся і не заскаквайце наперад, або, як даўней гаварылі, ня зьбірайцеся паміраць раней за бацьку. Вось, бок, цяпер народ стаў, ня ведаю, што за народ. Вось, яму раз, два—і давай усё. Але добра, спачуваючы вам і прымаючы пад увагу рэжым эканоміі і ашчэднасьць часу, пачну.

Справа гэта пачалася з жаніцьбы. Як вы ведаеце, жаніцца кожны хоча. Ды, вось, адзін мой знаёмы, Мікодым Аляксеевіч месяцаў два таму назад і выканаў сваё жаданьне—жаніўся. І зусім выпадкова. Падвярнулася нішто сабе з твару і з стану баба: рослая, статная, стройная. Баба—портрэт, толькі ня конскі—і больш нічога. А самае галоўнае што—дык гэта дачка „генэральская“, як яна сама сябе зарэкомэндавала. Адкуль яна і хто яна—ліха з ёй канцы знойдзе.

Мікодым Аляксеевіч, гэрой нашага апавяданьня, чалавек—можна адным словам сказаць—скромны. Але, каб вам ясьней уявіць яго портрэт, трэба дапоўніць, што ён—бухгальтар аднэй буйнай прамысловай установы раённага маштабу. На выгляд такі шчупленькі, худзенькі, мізэрненькі, як кажуць—росту аршын з шапкай. Твар заўсёды дзелавы і сур'ёзны. Маецца, нават, на барадзе і на губах некалькі валасоў, адзнака, што ён мужчына.

Мікодым Аляксеевіч ужо за трыццаць гадоў пражыў ад пачатку свайго сатварэньня і ні разу яшчэ не жаніўся дагэтуль. А што жаніцца ён хацеў, дык гэта ясна. А, нават, каб і не хацеў, дык дзеля людзей хоць трэба было гэта зрабіць. Бо ні аднэй хвіліны не давалі яму спакою саслужыўцы, каб ўмяшацца ў яго жаніцьбяныя справы і не параіць яму якой-небудзь бабы. Толькі вось бяда—ніхто з жаночага стану (актыўнага ці пасыўнага) не згаджаўся на такі комбінат з Мікодымам Аляксеевічам. Бо трэба сказаць, абы з якой бабай дык і гаварыць не хацеў ён: выбіраў увесь час багатую і прыгожую.



Тачыльшчык за працаю.

І ўявеце сабе радасьць гэтага чалавека, калі яму падвярнулася такая баба і яшчэ згоду сваю дала!

Помню, яшчэ тады казаў:—на руках насіць буду, глядзець, як вока, буду!..

І насіў-жа. Хай яго з бабаю.

Але які за тое гонар меў ён ад усіх у мястэчку!

— Завідная, брат, баба ў цябе!—падміргвалі Мікодыму Аляксеевічу яго знаёмыя.

Расьце мой Мікодым, як на дражджах. Нават сам старшыня раёну—і той міленькім стаў перад Мікодымам. Раней, бывала, і гаварыць з ім не хацеў, а цяпер:

— Мікодым Аляксеевіч, ці не дазволілі-б мне сёньня з бабай сваёй убачыцца, у мяне да яе справы ёсьць...

Словам, ішло ўсё лепш ня трэба. У мястэчку толькі і гаворкі было, як аб жаніцьбе Мікодыма Аляксеевіча. Нават сам ён цяпер зусім пераменіўся: жыве панастаяшчаму, гальштук адзеў, касьцюм справіў,—франтам дзела.

Толькі дзівілася яшчэ мястэчка, адкуль ён грошы бярэ. Але на гэтым мала спынялі ўвагу, бо ведалі ўсе, што жаніўся ён на генэральшы.

. . . . . . . . . . . .

Быў гэта неяк на днях я ў яго. Ну, і што-ж вы думаеце? Сядзіць, бедны, на печы, босы, абарваны, худы, забіты горам.

— Застрэлюся,—кажа.

— Што? За што?

— Зьвязаўся... у генэральскія штукі гэтыя палез...

— Апамятайся,—кажу.

— Згубіла... Голага заставіла... Уцякла... Тысячы ў касе не хапае... Выстранчаў...

— Ня ведаю, ці будзе страляцца, ці не, а што павесіўся, дык мне аб гэтым гаварылі. Вось табе й генэральша! Чудак чалавек,—падумаў я,—паўвеку пражыў і дурнем памёр. А шкода ўсё-ж такі чалавека, які паверыў „генэральшы“.

**А. Чурылавец.**



# Аб вясковай піонэрыі, як яна ёсьць.

Піонэры ў вёсцы павінны стаць безраздзельнымі кіраўнікамі ўсёй масы сялянскай дзетвары, зьяўляючыся адначасова з імі саюзьнікамі і памоцнікамі партыі і КСМ у барацьбе за новую вёску, г. зн. за коопэраваньне сялянства, за падняцьце культурнага ўзроўню сялянскай масы, за тэхнічную рэволюцыю ў сельскай гаспадарцы і г. д. (З рэзолюцыі 6-га з'езду УЛКСМ).

Прайшло ўжо ня мала часу з таго моманту, калі ў нас на Беларусі зьявіліся першыя піонэратрады на вёсцы. Цяпер, здаецца, можна менш гаварыць аб перашкодах і непаразуменьнях у працы вясковага атраду, бо тое, што было намечана пры першых кроках разьвіцьця вясковай піонэрыі, у значнай сваёй частцы праведзена ў жыцьцё.

Дзіцячы рух, які спачатку ахапляў толькі горад і мястэчка, цяпер абхапіў сабой і глухія куткі вёскі. Узьнятая і абуджаная актыўнасьць сялянскіх дзяцей пачала шукаць сабе выйсьця і організацыйнага аформленьня. Рост дзіцячага руху на вёсцы стаў для ўсіх фактам.

Быў час, калі трэба было падумаць аб зьмесьце працы атрадаў, бо аднаго толькі імкненьня да працы мала без яскравага і поўнага разуменьня формаў і мэтодаў працы. У гэтай справе вялікае значэньне мелі курсы і тая невялікая па пытаньням піонэрруху літаратура.

Далоў, далоў манахаў,
Равінаў, папоў.

Альбо:

Маладая піонэрка
Сына радзіла.
Трай, рай-ра-та-тай
Сына радзіла...

Паслухае селянін і крыўдзіцца, і яшчэ калі такія сьпевы сьпяваюцца на вуліцы пад кіраўніцтвам павадыра атраду—знаёмага комсамольца. Гэта дрэннае паступова зьнішчаецца, але ня ўсе сяляне кепска глядзяць на піонэраў. Такіх становіцца менш.

У ваднэй вёсцы селянін гаворыць: „Калі ў нас ня было піонэраў, то ніколі не маглі ўседзець яблыкі ў садох, агуркі ў агародах, лаяліся дзеці часта нават лепш за дарослага, а цяпер становішча далёка зьмянілася, нельга і спазнаць тых самых дзяцей. Добрая справа—піонэрскі атрад, сам-бы запісаўся, але шкада, што ня прымаюць—стараваты!“



Піонэры ў лягерах.

Зараз ужо можна гаварыць аб дасягненьнях у працы вясковага атраду, маючы хоць ня зусім вялікі, але ўсё-ж такі вопыт і практыку.

Гаворачы аб дасягненьнях, перш за ўсё неабходна падкрэсьліць той вялікі рост, які заўважваўся ў астатні час. Гэты рост асабліва падвялічваўся зімою, калі сялянскія дзеці, вольныя ад працы на полі, мелі магчымасьць аддаць частку свайго часу для працы ў атрадзе. Былі, а часткай ёсьць і цяпер, нядобрыя адносіны з боку сялян да піонэраў; гэта тлумачыцца непаразуменьнем сутнасьці дзіцячага руху сялянамі, а часта кепскай працай піонэраў (анціпапоўшчына, багалаянка). Нядобрае ўражаньне рабілі і сьпевы, якія сьпяваліся а дзе-ні-дзе сьпяваюць і цяпер піонэры.

З гэтага мы бачым, што прыкладнасьць піонэраў зрабіла добрае ўражаньне на сялян, а таксама і дзяцей.

І яшчэ прыклад:

У ваднэй вёсцы сялянін з хутара прыводзіць заўсёды сваю маленькую дачку на збор атраду, бо ёй далёка хадзіць, а па дарозе маюцца злыя сабакі.

Піонэры ў школе разгарнулі больш-менш добрую працу, зрабіліся больш прыкладнымі ў занятках, настаўніку лягчэй стала працаваць, узмацнілася дысцыпліна, вольны час скарыстоўваюць для разумных забаў. Значна павялічыўся ўплыў піонэраў на „беспартыйных“ (як іх любяць называць піонэры) дзяцей. Павялічылася грамадзкая праца па



дамозе хаце-чытальні, крыху зроблена і ў спраяве сельска-гаспадарчай прапаганды. Да дасягненьняў трэба яшчэ дадаць тое, што амаль што ўсе атрады арганізацыйна аформлены і што праца прыстасоўваецца да ўмоў і быту вёскі; акрамя гэтага павялічылася ўвага і кіраўніцтва з боку ячэек КСМ.

Было-б вялікай памылкай казаць аб дасягненьнях, хоць іх і нямала, але ня менш, як недахопаў.

Прычынай недахопаў зьяўляецца тое, што мы яшчэ ня маем поўнага вопыту працы вясковай піонэрскай арганізацыі. У кожнай працы патрэбна плянавасьць і тым больш працы новай. Гэтай плянавасьці ня зусім хапала ў росьце вясковых атрадаў, а таксама і працы. Яшчэ часта складаюцца атрады там, дзе няма належных умоў, а раз так— знача, хутка распадаюцца, тым больш, што не заўсёды праводзіцца падрыхтоўчая праца.

Бывае і так, што сяляне нічога ня ведаюць аб піонэрах, а атрад ужо склаўся, а з гэтае прычыны здаралася тое, што сяляне распускалі розныя чуткі пра піонэраў.

Уваднэй вёсцы (на граніцы) раптам распаўсюдзіліся чуткі аб тым, што хутка прыдуць палякі і будуць расстрэльваць піонэраў, і нават гаварылі аб тым, што гэта ўжо дзесьці рабілася. Пасьля гэтага піонэры прыбеглі да павадыра, каб аддаць свае гальштукі і выпісацца з атраду.

Павадыр атраду ведае, што трэба рабіць, аб гэтым ён чытаў у газэце, часопісі, але затое мала ведае, як трэба працаваць, а з гэтай прычыны ў працы вясковага атраду няма пэўнага пляну і сыстэмы. Атрад часта тую ці іншую працу праводзіць выпадкова.

Вялікае значэньне мае с.-гаспадарчая прапагандэ, якая фактычна павінна быць падставай усякага зьместу працы, але яна вядзецца яшчэ не ўва ўсіх атрадах; шмат у якіх атрадах займаюцца больш вялікай палітыкай, даходзячы да таго, што чытаюць газэту „Правду", нічога ў ёй не разумеючы.

Часта паўтараюцца адны і тыя-ж гутаркі, якія надакучылі піонэрам, а адсюль зусім зразумела тое, што дзеці пачынаюць менш цікавіцца імі. *Павадыр гаворыць многа аб законах і звычаях, але мала сочыць за іх выкананьнем, мала дапамагае піонэрам іх выконваць і ня выконвае сам.*

Ёсьць частка атрадаў і немалая, якая працуе на расійскай мове, між іншым як піонэры займаюцца ў школе на беларускай. Гэта ў значнай ступені залежыць ад актыву, вучоба якога яшчэ не стаіць на належным узроўні, адкуль і выплываюць настрої ўцячы з піонэрпрацы, погляд на яе, як на няцікавую.

Вось кароценька галоўныя моманты становішча вясковай піонэрарганізацыі ў нас на Беларусі.

Асноўным лёзунгам, як і ўсёй піонэорганізацыі, так і яе вясковай часткі, зьяўляецца *барацьба за якасьць працы*, гэта зразумела кожнаму комсамольцу, кожнаму павадыру атрада, гэта выплывае з сапраўднага становішча арганізацыі.

Яшчэ шмат чаго трэба зрабіць у галіне ажыўленьня працы, аб гэтым трэба падумаць нашым вясковым ячэйкам і піонэрактыву. Зьмест працы павінен быць пабудаваны так, каб ён быў прыстасаваны да ўзроставых асаблівасьцяй піонэраў.

Вучоба піонэрактыву—вучоба сур'ёзная, павялічэньне і якаснае палепшаньне кіраўніцтва з боку ячэек КПБ і КСМ, як і раней, павінна застацца нашай далейшай задачай.

Усё гэта дае нам гарантыю разьвіцьця піонэрруху на вёсцы ў Беларусі.

**Міх. Лабадаеў.**



# ПАД ГАРМОНІК

*Вясёлыя прыпеўкі.*

У горадзе на градзе
Расьцьвітаюць кветкі,
Давай будзем ўсе сьпяваць
Новыя прыпеўкі.

У чыстым полі на гары
Вырасла асіна,
Наша Мар'я у папа
Ня хрысьціла сына.

Ой, ня страш мяне, гром,
Перастань грымеці,
А у вёсках, дзе ні глянь
Ў піонэрах дзеці.

Каля хаты пад вакном
Пасаджу бярозку,
Дзяніс з радасьцю бярэ
Замуж комсамолку.

А той дзедка Апанас
Перастаў маліцца,
Стала моладзь, дзе ні глянь
Без папа жаніцца.

Эх, у полі на гарэ
Ды арэ араты,
Хто шматпольле завядзе,
Той будзе багаты.

Дзеўкі песенькі пяялі,
Хлопцы жартавалі,
Мы у вёсцы новы клюб
Сабе збудавалі.

**Зэшка Бульбянік.**

* * *

Эх, гармошка мая,
Ты трохрадная,
Прычакаўся я часіны
Ды спагадная.

Адзін сын у комсамоле,
Другі ў піонэрах,
Гаспадарку павёў
Іншым я манерам.

Пачаў сеяць буракі,
Віку й канюшыну,
А нарэшце я купіў
Сеялку-машыну.

**Зьм. Падлужны.**

# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Дарагі падарунак для бацькоў.

*(Дукорскі с. с. Сьмілавіцкага раёну).*

Выхадцы-культурнікі вёсак Дукорскага с. с., як вучнёўства, студэнцтва і настаўніцтва, якія знаходзяцца ў Менску, ухвалілі пабудаваць радыёпрыёмнік з моцнагаварыцелем, як культурную памятку для свайго сельсавету.

Абгаварыўшы гэтае пытаньне ў сельсавеце, а таксама і ў шэфтаварыстве над Дукорскім сельсаветам, абраная камісія пусьціла падпісны ліст па збору сродкаў. Вынік працы падпіснога лісту добры. Усяго сабрана 200 руб.

Сялянства з свайго боку сабрала 50 руб. 30 к.

Усе сабраныя грошы былі праведзены цераз касу шэфтаварыства над Дукорскім сельсаветам. Недахоп грошай шэфтаварыства ўзялося крэдытаваць на сябе.

Радыёпрыёмнік будзе каштаваць 280 руб.

Сялянства з нецярплівасьцю з дня на дзень чакае, калі пабудуюць радыё. Хоць-бы адным вокам узглянуць, што там за цудоўная машына без языка, а так моцна будзе гаварыць.

Цяпер ідзе напружаная праца комсамольскай яч. па падгатоўцы і ўстанаўленьню антэн.

У хуткім часе Дукора пачуе Маскву, Менск і многа іншых перадатачных станцый. **А—кі.**



## Зімою за кніжкаю, а ўлетку за плугам.

Па сканчэньні заняткаў студэнты Менскага Белпэдтэхнікуму, у ліку 31-га, пасланы ў фэрму Дараўка, недалеча ад Менску, для набыцьця практыкі па сельскай гаспадарцы.

Пачалася праца. Пад кіраўніцтвам вопытнага агронома Барташэвіча кожны практыкант атрымаў „свой уласны хутар“ і вядзе на ім шасьціпольны севазварот.

Сялянства спачатку на гэту працу глядзела адмоўна, кажучы, „што яны робяць, толькі поле псуюць, пакапаўшы на нейкія градкі, як магілкі, ды яшчэ і надпісы на кожнай“.

Кожны дзень з зацікаўленасьцю і напружнай энэргіяй студэнты працуюць на сваіх градках. Вядуць досьледы над фазамі разьвіцьця расьлін, штучным угнаеньнем глебы і меры барацьбы з рознымі шкоднікамі, зьбіраючы іх колекцыі.

За кароткі час практыкі кожны студэнт добра азнаёміўся з сельска-гаспадарчымі машынамі і навучыўся самастойна іх прымяняць на практыцы.

Найцікавейшая праца для студэнтаў—гэта догляд за біостанцыяй, заложанай сваімі рукамі, догляд за пчоламі, коньмі і кароўмі. Лекцыі, „як карміць кароў, каб больш атрымаць малака“, прыстасованыя на практыцы — даюць добрыя вынікі.

Праца на полі, як уборка сена, жыта, адбываецца сваячасна.

Сялянства Бараўскага с.-с., бачучы актыўную працу студэнтаў, зьмянілі свой погляд. Асабліва моладзь з вялікаю цікавасьцю і з рознымі парадамі зьвяртаецца да студэнтаў. Дзеля лепшай змычкі і падняцьця культпрацы сярод вясковай моладзі студэнтамі былі наладжаны 2 вечары змычкі.

Больш за ўсё зацікавіў сялян наш габінэт па зьбіраньні шкоднікаў агароду, поля і саду, іх колекцыі, разгляды ў мікроскоп і чытаньне лекцый.

Цяпер амаль што кожнае сьвята сялянства і сялянская моладзь заходзяць да блізкіх сяброў студэнтаў, вядуць гутаркі на тэмы ў большасьці па сельскай гаспадарцы.

Студэнты-практыканты не забываюць лёзунгу „Тварам да вёскі“. Добра зьвязаўшыся з сельсаветам і комсамольскаю ячэйкаю, дапамагаюць праводзіць розныя кампаніі, наладжваюць спэктаклі, выпушчаюць газэты як насьценную, так і вусную.

У вясковую комсамольскую ячэйку ад студэнтаў выдзелены кіраўнік як політгуртка, па самаадукацыі, так і спорту, у якіх праца праводзіцца плянова і актыўна.

Студэнты-практыканты задаволены практыкай.

**А.**

## Расьцем і мацнеем.

*(Вялешкаўская яч. ЛКСМБ, Віцебшчына).*

Ячэйка з'арганізавалася пры сельсавеце вясною ў 1924 годзе. Ня гледзячы на сваю моладасьць, ячэйка ўсё-ж такі праявіла сябе ў працы. З пачатку сваёй арганізацыі ў ячэйцы налічвалася 6 чалавек, дзяўчат зусім ня было.

У сучасны момант—у ячэйцы каля 35 чалавек, з іх 7 дзяўчат. Павялічылася і партядро. Сяброў партыі, яшчэ не аформленых,—2 і 6 кандыдатаў.

Дзякуючы добрай наладжанай працы, ячэйка карыстаецца аўторытэтам, і, як вынік ўсяго гэтага, беспартыйная моладзь з кожным днём папаўняе шэрагі ячэйкі.

**Я. Ш.**

## Шэф, шырэй працу!

Над *Блузкім сельсаветам, Пухавіцкага раёну* шэфствуе 2-ая друкарня г. Менску.

Але справа ў тым, што шэф ніякай працы не праводзіць. Прыедзе ў 2 месяцы адзін раз, паначуе, дый гайда ў Менск, а ў вёсках нашага сельсавету, апрача С. Берляжы, шэф ня быў ні аднаго разу, і сяляне ня бачаць ад яго карысьці. Пажадана вельмі, каб шэф пашырыў сваю працу сярод цёмнага сялянства нашага с. с., і каб шэфства было ня толькі на словах, але і на справе.

**Міклуш.**

## Лета прагулялі.

*(В. Словені, Талочынск. р-ну, Аршаншчына).*

У Славенскай ячэйцы ЛКСМБ было ўхвалена ў летні час склікаць агульныя сходы раз у два тыдні. Але калі прыходзіш на сход, дык дакладчыка няма, то пасяджэньня бюро яшчэ ня было, то што-небудзь іншае накшталт гэтага, і так сход адкладваецца да чарговай нядзелі. Сход назначаецца а 6 гадзіне вечара. Вайсковыя хлопцы прыходзяць за 3—4 версты раней на якую-небудзь гадзіну, а прыдуць—чакай да 9 гадзіны. Абвестак аб скліканьні сходу ніколі ня вывешваецца.

Няма гурткоў чытаньня. Кіраўнікі, праўда, выдзелены, але няма разьбіўкі на гурткі.

Не мяшала-б нашаму райкому больш зьвяртаць увагу на нашу ячэйку.

**С. К.**

## Цаліна вясковай цемры.

*(Ляднянскі р., Растковскі с. с., Аршаншчына).*

У нашай вёсцы Літвінава дрэнна абстаіць справа з беспа тыйнай моладзьдзю. Аж жудасна глядзець: калі дзе сабярэцца гуляць, толькі і чуць... мат, мат... адна брыдота, сварка і інш. Карты—асноўныя заняткі моладзі. Некаторыя дарослыя хлапцы лазяць у сады. З кніжкаю да іх і не паказвайся, а то і кніжку адбяруць і самога прагоняць (гэта ўжо было з адным комсамольцам). Комсамольцы колькі разоў пробавалі ўгаварваць хлапцоў, але нічога ня выходзіць. Сорамна беспартыйнай моладзі так жыць. Адумайцеся.

**С. Кастрычнік.**

## Вясковы фэльетон.

### Ня пеце хлопцы, ня слухайце таты!

Ну, прызнайцеся, каго з нас, як былі малыя, не прывучалі піць? Яшчэ й як прывучалі!

Мяне самога, бывала, бацька ня раз цягаў з-за печы і тузаў за рукаво:

— Ідзі, Антоська, да стала, выпі паўчарачкі... з дзядзькам Рыгорам... Ну!

А той дзядзька, бывала, як пападзе ў свае рукі, дык і жыў ня будзеш, пакуль цэлай чаркі ня вып'еш.

— Ай, Антоська, ну і пітун-жа з цябе! Ну, яшчэ пагні, хаця па хвальбонкі! Ну!

І гнеш і п'еш. У ваччу цямнее, іскры сыпюцца, а усё гнеш, а ўсё п'еш.

А сваьці-суседкі прыгаварваюць:

— Хай на здароўе, дзеткі.

Так прывучалі мяне да п'янства тады, калі я бяз портак па вуліцы бегаў.

А думаеце цяпер гэтага няма? Колькі хочаце! Каб мне столькі пудоў жыта намалаліць, колькі такіх здарэньняў будзе ў адну вось гэту нядзелю.

Што ты зробіш са старымі, калі яны яшчэ ніяк не абкомсамоляцца. Ніводнага ня то вясельля, але і пярэзваў ня згуляюць бяз выпіўкі. Дзе там!

Вось, скажам, ладзяць пярэзвы. Сабралася гасьціна—і няхай сабе гуляюць на здароўе. Дык не!

— Юстын, панёс бы ты дзецям па чарачцы даў,—скажа звычай гаспадыня.

А дзяцей у такую хату, дзе гасьціна ёсьць, зьбіраецца гурток ладны,—менш поўкапы ня бывае. І ўсякага там роду і ўзросту: і хлопчыкаў, і дзяўчатак, і ў штоніках, і ў кашульках, і ладных, і крыху большых, і яшчэ большых. А сярод гэтай дробезі на прыпечнай лаве, як для нагляду, важна сядзяць два ці тры кандыдаты ў комсамол.

Прыдзе Юстын да такой „сямейкі" і ну яе частаваць.

Кожнаму ў руку па скварцы, па салодкай булачцы. А потым ужо чаркай абходзіць, самагоначкай трактуе.

П'е дзятва і моршчыцца, аж насы ўгінаюцца!

За малымі большанькія, за большанькімі яшчэ большанькія, а там глядзіш і „комсамольцы" бутэльку спляжылі.

А бацькі за сталом радуюцца:

— Вось дзеткі, вось маладцы! Ну, бяжэце-ж цяпер, пагуляйце!

Выскачыць гэтая сямейка на вуліцу і пачне!

У Рыгора нюхаўка расквашана, у Сымончыка пад вачмі сінякі, у Андрэя грудзі насьцеж—нехта натузаў здорава.

Не пасьпееў ты павярнуцца—чуеш вокны бражджаць ,і Юстын галёкае: — Хлопцы, што вы робіце, усю шыбу растаўклі!

А вечарам у нядзелю і платы затрашчаць, і на вечарынцы дзяўчата закрычаць:

— Тата, тата! Наш Рыгор мазьзю мажацца.

Дзед Базыль і той пасьмяецца. Арудуе „сямейка", бацькаўскі хмель праганяе!

А прыедзе гэтая сямейка коні пасьвіць—таксама на яе ўпынку няма. Хто ляжа прыдрамаць—яму вусы падстрояць, хто пройдзе міма - таго перадражняць, перакрывяць і такі рогат справяць, што нехаця зачырванееш. А то пільнуйся, каб каменем ня пусьцілі!

І суседнія таксама памагаюць, і платы паабрываюць, і грушы паломяць. А ўжо вечарам, калі бацька возьме лейцы ў рукі, тады гэтыя самыя Рыгоркі просяцца:

— Тата, татачка, я ня буду болей!

А лейцы ўжо не разьбіраюцца і сьвеньцяць, каб другі раз паверх лесу не хадзіў.

Капне сьляза, капне другая, а больш ані-ані! Няма на каго! Бацька прыўчаў, а матка прасіла: — Выпі, саколік!

Быў малым—матку ня раз пугай сьцёбаў, і бацька сьмяяўся:

— Так яе, так дзеткі!

Было 5 гадоў, дык бацьку ня раз за грудзі трос. І бацька сьмяяўся.

— Вось шустры сынок! Што ўжо з яго будзе, бог ведае!

А цяпер папробуй!

Я ня раджу і пробаваць,—яшчэ горш будзе. Ня ўводзьце ў злосьць старога бацьку!

Лепш так зрабеце: як будзеце ў гасьцях ды ўбачыце, што дзецям даюць гарэлку, дык вы бунт падымайце.

А як убачыце, што малы Янучок матку пугай сьцёбае, дык вылайце бацькоў і Янучка, няхай з маленства ня вучыць распусьце.

А калі гэты Янучок падрасьце ды пачне ўжо да грудзей бацькавых дабірацца, дык вы яго ў ячэйку, ды ў спортгурток запішэце!

Няхай там свае сілы пакажа, праз год не пазнаеце яго!

Пакіне распусту, дальбог, пакіне!

**Антось Прылуцкі.**




# Рыхтуйцеся да сяўбы жыта

Надыходзіць той час, што сяляне возьмуцца за сяўбу жыта. Дбайны гаспадар загадзя рупіцца, якбы добра выпаўніць гэтую задачу. Дбайны гаспадар, калі жадае мець добры ўраджай, глебу заўсёды трымае пухкаю.

Нашы сяляне сеюць звычайна жыта пасьля двух разовае воркі. Вядома, калі зямля добра апрацавана, калі няма ніякіх ні карэньняў, ні пырніку, ні дзярны, то жыта ўдасца надта добрае, але калі на полі ёсьць і пырнік, і дзёран, то дзеля таго, каб насеньне добра ўзышло, каб мець добры ўраджай, раіцца перад апошняю воркаю пряцягнуць спрунжыноўкаю.

**Падрыхтоўвай зямлю да пасеву загадзя.**

Апрача гэтага, трэба назаўсёды памятаваць і адвыкнуць ад сяўбы адразу пасьля воркі, бо гэта надта шкодна на ўраджай. Маладыя і наогул карэньчыкі жыта баяцца гэтага. Сьвежая зямля паступова асядае і абрывае маладыя карэньні, што дрэнна адбіваецца на расьліне. Каб ня было страт ні ў насеньні, ні ў самым ураджаі, а каб жыта добра ўзышло і добра кусьцілася, неабходна памятаць: да пасеву жыта вораная глеба павінна пралежаць 2-3 тыдні, даць ёй магчымасьць зьлежацца.


Ачыстка насеньня перад сяўбой у Шацкім раёне.

Лепш на дзён некалькі спазьніцца з пасевам, чым сеяць у нязьлежаную глебу.

Самы падхадзячы тэрмін для сяўбы—гэта канец жніўня і пачатак верасьня; чым клімат халаднейшы, тым раней трэба сеяць жыта, бо жыта блізка што толькі з восені пачынае кусьціцца, а дзеля гэтага позьнія пасевы не дадуць добрых кустоў жыта.

**Сей згодна запатрабаваньняў глебы.**

Яшчэ нашы сяляне сеюць, як кажуць, бяз ніякае меры. На дзесяціну патрабуецца высеяць 9—12 пудоў жыта. Чым насеньне буйнейшае, тым больш на вагу яго трэба высеяць, а таксама запамятуй, што на больш гнойнай глебе жыта сеецца радзей, бо ў гнойнай зямлі яно лепш разрастаецца.

Далей, што павінен ведаць кожны гаспадар, гэта—сяўба і баранаваньне. Звычайна, жыта ў нас сеецца рукамі, а пасьля бараною забараноўваецца. Пры ручной сяўбе зерня засыпаць глыбока бараною няможна, бо карэньні расьліны павінны два разы кусьціцца—адзін раз пры глыбока ляжачым зерні, а другі раз каля верху зямлі.

Яшчэ таксама трэба памятаваць, што жыта баіцца вады як у глебе, так і на паверхні зямлі, ад чаго здараюцца частыя вымачкі. Ад гэтае бяды кожны селянін можа пазбавіцца,—толькі трэба рабіць, гледзячы па разьлегласьці зямлі, разоры для спуску вады, якою багата наша зямля асабліва вясною.

**Хочаш мець добры ўраджай—падкладай штучныя ўгнаеньні.**

І апошні прыём, ад чаго жыта можа палепшыцца, гэта гной. Звычайна жыта ў нас сеецца на папары, але ёсьць гэтакія мясцовасьці, дзе зямлі мала, дык там жыта сеюць і пасьля ярыны. Але селянін дзівіцца: „пасеяў на мяккай зямлі, а зерня няма“. А гэта затым няма зерня, што яравыя пасевы выбралі весь фосфарны квас, а жыта, як і ўсякая расьліна, бяз фосфарнага квасу ня можа расьці. У такім выпадку трэба падсыпаць штучных гнаёў як супэрфосфат або тамашлак. На цяжкіх землях часьцей ужываецца супэрфосфат, на лёгкіх—тамашлак. Супэрфосфату на дзесяціну патрабуецца 2-3 мяшкі, а тамашлаку 3-4 мяшкі.

Апроч гэтых двух гнаёў, яшчэ можна ўжываць салетру, якая сеецца ўвосень, пудоў каля двух на дзесяціну. Салетра адразу палепшыць самыя кепскія ўсходы, а вясною таксама не мяшала-б яшчэ падсеяць пудоў 4—6 салетры.

Жыта таксама добра ўдаецца па заворaным лубіне. Лубін пад жыта заворваецца ня надта глыбока. Перад пасевам жыта ральлю добра было-б прыкачаць каткам, каб лепш яна сьціснулася, бо на непрыкатаным полі зямля асядае і зерня закопваецца глыбока.

І апошняе, што трэба памятаваць, гэта—ачыстка насеньня як ад сьмецьця, так і адборка буйнага.

Вось тыя галоўныя прыёмы, якія павінен ведаць кожны земляроб.

**Пяшчаную глебу можна палепшыць.**

Беларусь мае шмат пяшчанае зямлі, ад якое селянін ня мае ні на грош прыбытку. Цэлыя палосы пазарасталі дзікімі травамі. А зямля гэтая—гэта багацьце для тых, хто ведае што з ёю рабіць. Усе недахопы пяшчанае глебы пры дбайнасьці саміх сялян можна зьнішчыць і мець добрыя ўраджаі.

Першым спосабам, якім можна палепшыць пяшчаную глебу—гэта, лубін. Лубін бывае двух гатункаў: жоўты лубін якраз і расьце на пяшчаной глебе бяз гною і дае добры ўраджай быльля, багатага азотам.

Сіні лубін расьце на цяжкіх глебах і вымагае ня зусім пустое зямлі. Каб лубінам палепшыць зямлю, дык яе трэба араць з восені і тым ляпей, чым глыбей. Пад лубін карысна падсыпаць дрывесны попел па 30—50 пуд. на дзесяціну, а таксама можна падсыпаць тамашлаку, супэрфосфату, вапны па 15—20 пуд. на дзесяціну.

Толькі сяўбою лубіну можна палепшыць пяшчаную глебу і мець ад ее добрыя ураджаі.

**П.**

# Як зьберагчы конскія капыты.

Пакуль у каня ногі моцныя і здаровыя, датуль і конь будзе працаваць. Конь з хворымі нагамі—нішто. Адсюль ясна, наколькі важна клапаціцца пра тое, каб ногі ў коняй былі спраўныя. Найважней тут будзе догляд за капытамі.

Пад капытамі на падошве заўжды набіваецца шмат гразі, якую неабходна вычышчаць жалезным тупым кійком, а ў весь капыт абмываць улетку чыстаю вадою і абціраць насуха чыстаю анучай. Звычайна тады, калі конь спацеў, час ад часу капыты неабходна счышчаць, правільней выраўніваць, каб рог капыта надта не вырастаў, альбо не абламваўся.

Калі заўважыцца, што рог на капыце надта сухі і пачынае крышыцца, дык трэба таксама яго абмазваць мокрай глінай і абкручваць анучамі гадзін на 5—6, альбо паставіць каня, зьняўшы падковы, голымі капытамі на сырую гліну. Пасьля гэтага неабходна намазаць капыты сьвежым несалёным сьвіным салам. Карысна ў летні час вадзіць каня раніцай і ўвечар па расе.

У выпадку, калі капытны рог стане занадта мяккім і пачне крышыцца, дык тут найчасьцей прычына тая, што конь хварэе на гэтак званую хваробу капытнай стрэлкі. Галоўная барацьба з распадам рогу—гэта чыстка і прамыўка капыта. Робіцца яна так: капытную стрэлку, а гэтак сама і барозны акуратна расчышчаюць тупым жалезам, шчоткай і пасьля гэтага прамываюць.

Найлепшымі лекамі для прамыўкі ў гэткім выпадку будзе мазь, якая складаецца з роўных частак сьвіного сала (сьвежага), дзёгцю і неачышчанага шпігінару.

Калі капыт ўжо пачаў гнаіцца, дык можна ўжываць для прамыўкі рашчыну карболкі (на 20 частак вады 1 частка карболкі).

Ані ў якім разе нельга карыстацца featured рознымі капытнымі мазямі, ад якіх, акрамя шкоды, нічога ня бывае. У часе коўкі каней ня трэба даручаць цалком гэтую справу кавалю, а неабходна гаспадару самому прасачыць за тым, каб падкова была прыгнана правільна. Гэтак сама, калі здымаецца старая падкова, дык неабходна прасачыць, каб спачатку былі выдраны ўсе цьвікі, і толькі тады здымаць падкову цалкам. Падкову-ж, што трымаецца на капыце хоць і на адным цьвіку, выдзіраць ня трэба, ня выдраўшы раней цьвіка.

У часе чысткі капыт, падкову трэба здымаць капытным нажом, таксама здымаецца рог з падэшвы капыта да таго месца, дзе не перастане выкрышвацца, і згладжваюць яе. Занадта зрэзваць сподную частку капыта небясьпечна таму, што тады капыт будзе сьцікацца і сохнуць. Стрэлку неабходна абрэзваць крыху, каб яна датыркалася зямлі. Пры вялікім абрэзе яна можа загнойвацца. Канцы капытоў падкругляюцца рашпілямі. Сама падкова павінна быць акуратна прыгнана да капыта, а не капыт да падковы, як гэта часта любяць рабіць кавалі. Мерачь і надзяваць падкову можна цёплай, але ні ў якім разе не гарачую, ад якой гарыць рог і псуецца капыт.

Часта каваць коняй ня варта, каб не псаваць капыт. Таксама ня варта каваць і надта рэдка, бо рог перарастае і падкова давіць. Будзе правільна, калі перакоўваць тыдняў праз пяць. Калі падкова ў хуткім часе пасьля коўкі паслабне, дык яе неабходна падцягнуць.

Перад працай і пасьля яе трэба ўважліва абгледзець капыты—ці ўсё ў парадку.

Правільная добрая коўка і правільны ўважлівы дагляд дапаможа селяніну даўжэй карыстацца сваім канём, а, наадварот, паганы дагляд можа пазбавіць селяніна ад працаздольнага каня.

**З. М.**



# Хочаш быць дужым—займайся спортам

## Рабі гэта кожны дзень з ранку.

1. Падніміся на пальцы, выцягні рукі ў бакі з глыбокім уздыханьнем 4 разы. Пры падыманьні—уздых, пры апусканьні—выдых.

2. Нахілі тулава назад. Ногі расстаў у бакі. Рукі на клубох. Паўтарыць 4 разы. Нахіляцца трэба так, каб пазваночнік заставаўся простым і ногі ў каленях ня згіналіся. Пры нахіленьні назад—уздых, пры першапачатковым становішчы—выдых.

3. Нахілі тулава ўперад, ногі расстаў. Рукі на клубох. Паўтары 4 разы. Пры нахіленьні ўперад—выдых, пры выпрастаньні—уздых.

4. Выцягнуць рукі ўперад. На пальчыках павольна згінаць ногі да поўнага прысяданьня. Калені павінны быць расхілены як можна шырэй. Павольна падніміся, апускаючы рукі. Уздых—пры падыманьні, выдых—пры прысяданьні

5. Падайдзі да стала, або да лавы, пакладзі на яго рукі, пальцамі ўперад. Потым адстаў ногі, апіраючыся абедзьвюма рукамі на стол, і з гэтага становішча раз-по-разу паднімай ногі назад. Практыкаваньне прарабі 4 разы.

6. Узьлезь на стул абедзвюма нагамі, прытрымоўваючыся за сьпінку, і раз-по-разу паднімай адну нагу ўперад, прысядаючы на другой. Прарабіць 4-5 разоў.

7. Ляж на сьпіну. Рукі на клубох. Павольна паднімі ногі (уздых) і апусьці, прарабіўшы нагамі кола (выдых). Падніманьне ног і невялікі колаўтвараючы рух выцягнутаю нагою ў клубавым суставе. Пры выкананьні практыкаваньня не затрымлівай дыханьне. Калі асоба, якая займаецца, слабая—ногі паднімаць раз-по-разу. Прарабіць 2-3 разы.

8. Ляж на жывот. Рукі на клубох. Упіраючыся нагамі ў сьцяну, павольна выгінай тулава. Тулава трэба падымаць як можна вышэй. Пры падыманьні—уздых, пры апуськанні—выдых. Прарабіць 3 разы.

9. Ногі расстаў, рукі залажы на патыліцу. Нахілі тулава ў правы і левы бок пачарзе 3 разы. Пры нахіленьні—уздых, пры выпростваньні—выдых.

10. Рукі выцягнуць уперад і паднімаць уверх пры глыбокім удыханьні. Пры падніманьні—уздых, пры апусканьні—выдых Прарабіць 3-4 разы.

Пасьля прароблены практыкаваньняў неабходна рабіць абліваньне або абціраньне цела мокрым ручнікам, што надта добра дзейнічае на ўсю нэрвовую сыстэму. Ніколі ня трэба абцірацца, або аблівацца надта доўга, каб не ахаладзіць скуру. Пасьля абліваньня, або абціраньня неабходна выцерціся насуха суравым ручнікам. Неабходна асабліва добра выцерці сьпіну.

Абліваньне і абціраньне павінна цягнуцца ня больш 4 хвілін. Пасьля абціраньня, або абліваньня, калі цела насуха выцерта, неабходна прыступіць да масажу па наступнай схеме:

1. Масаж ног. Абедзвюма рукамі ўзяць нагу каля ступні і шараваць нагу аж да клуба 5—7 разоў.

2. Масаж рук. Узяць руку каля запясьця і моцным націскам расьціраць яе да пляча 5—7 разоў.

3. Масаж жывата робіцца хуткім рухам папярок ад клубу да клубу адчыненай ладоньню 4-5 разоў.

4. Масаж грудзі і бакоў робіцца: леваю рукою—масыруюць верхнюю правую частку грудзі зьнізу к плячу, аб правую—леваю. Прарабіць 5—7 разоў.

5. Масаж сьпіны робіцца верхняю часткаю правай і левай рукі пачарзе. Рух зьлева і справа 5—7 разоў.

6. Шыю масыраваць у кірунку ўніз абедзвюма рукамі 5—7 разоў.

Заканчваецца масаж некалькімі моцнымі ўдарамі па ступні.



Фізвых у піонэрскім атрадзе.

# ШТО ТРЭБА ЧЫТАЦЬ?

**Я. Пачопка.** *„Як узгадаваць і даглядаць сад“.* Беларускае коопэрацыйна - выдавецкае таварыства „Савецкая Беларусь“, Менск, 1923 г., стар. 72.

Амаль у кожнага селяніна ёсьць свой невялічкі пладовы сад, а таксама значная частка сялян жадаюць мець хоць некалькі пладовых дрэўцаў. Асабліва вялікая патрэба адчуваецца ў маладых прышчэпах у сувязі з тым, што зараз нашы сяляне перасяляюцца на пасёлкі, і кожнаму ахвота завесьці ў сябе маладзенькі садзік. Але труднасьць дастаць прышчэпаў, дарагавізна, стаяць перашкодаю перад большасьцю сялян.

Купіўшы прышчэп, гэта таксама ня ўсё. Папершае, трэба ведаць, якія лепш купіць, як пасадзіць і як даглядаць так, каб вырасьлі здаровыя дрэўцы, якія давалі-б карысьць за патрачанную працу. Большасьць нашых сялян усяго гэтага ня ведае, а каб мець добры садзік, каб мець з яго карысьць, трэба яго даглядаць і трэба ведаць, як даглядаць.

Памянёная вышэй кніжка Я. Пачопкі можа памагчы селяніну ў гэтых адносінах сваімі парадамі, як загадаваць і даглядаць сад. Аўтар гэтае кніжкі на трэцяй старонцы зазначае: „гэтую кніжку я маю ахвяраваць той частцы земляробаў, якім ніякія навукі аб расьлінах невядомы“. І сапраўды, прачытаўшы гэтую кніжку, пабачыш, што напісана яна для сялян, бо зьмест кнігі выкладзены зразумела, чытаецца лёгка, напісана зразумелаю беларускаю моваю, а калі які тэрмін спаткаецца невядомы, то ў канцы кніжкі ёсьць невялічкая тэрміналёгія, дзе беларускія словы перакладзены на расійскую мову. Але каб запамятаваць, разабрацца ў дадзенай кніжцы, трэба прачытаць толькі ўважліва, і ня толькі прачытаць, а нават варта і купіць, бо пры працы ў садзе яна будзе зьяўляцца як-бы справачнікам. Наогул, кніжка Я. Пачопкі закранае ўсе пытаньні, што тычацца садоўніцтва: тут і артыкул як самому зрабіць расаднік, пасадзіць насеньне, розныя спосабы прышчэпліваньня, догляд за прышчэпамі, калі і як садзіць прышчэпы, ахова пасаджаных прышчэпаў у зіму, догляд за прышчэпамі вясной і летам, догляд за карой і кронай, угнойваньне саду, падмаладжваньне саду і іншыя пытаньні садоўніцтва.

У дадатак да ўсяго гэтага трэба адзначыць, што ў дадзенай кніжцы яшчэ ёсьць кароценькія артыкулы для аматараў, аб тым, як разводзіць суніцы, маліны, парэчкі і агрэст.

У кніжцы маецца 25 малюнкаў, якія дапамагаюць чытачу разабрацца ў напісаным.

**Т. Ц.**

## Паштовая скрынка.

**Сяргею Асоту.** „Знахар“—ня пойдзе. Апісаны табою факт ня мае агульна-грамадзянскай вартасьці. Трэба пісаць аб тым, што сам бачыш, а не грунтавацца на чужых словах. Пішы допісы. Пісаць умееш. Высьвятляй жыцьцё вёскі сучаснай, а не дапатопнай.

**П. Калбушніку.** Вершы на расійскай мове ў часопісі ня друкуюцца. Твой верш ня пойдзе.

**П. Гэйдэку.** П'еса „Выказаў“—ня пойдзе. Папершае: п'еса твая паходзіць больш на інсцэніроўку, чымся на п'есу, па глыбіні перажываньняў „гэрояў“—наіўная, тэма—нішто сабе, але слаба распрацавана.

**Юрцы і Налі.** Верш „к 5 Міжнароднаму дзіцячаму дню“ паходзіць больш на звычайны допіс, чымся на верш. Перш чым брацца за пісаньне вершаў, трэба мець вялікі запас слоў і ведаць тэхніку пісаньня. Чытайце творы старэйшых пісьменьнікаў.

**К. С. Андрэеву.** Атрыманыя вершы друкавацца ня будуць. Кульгае тэхніка, і тэмы зьбітыя, так, напрыклад:

Каб была я птушкай
Птушкай салаўінай?
Паляцела-б за межы
Першаю гадзінаю... і г. д. і г. д.

Такія матывы аджылі свой век разам з нашаніўскаю парою. Раім табе чытаць творы „Маладнякоўцаў“, а таксама пісаць больш допісаў, чымся вершаў.

**Карпачову, Глебку, Чаўсову**—вашы вершы зьмесьцім у бліжэйшых нумарох „Маладога Арата“.

**Да нашых дапішчыкаў-юнкораў.** Рэдакцыя атрымлівае шмат запытаньняў аб тым, ці можна прысылаць допісы бяз марак, на што і адказваем,— што кожны допіс, накірованы ў часопіс „Малады Араты“ павінен быць аплочаны юнкорам. Падругое, кожны павінен памятаць, што допіс павінен пісацца на адным баку паперы, чытэльна і ўнізе допісу павінна быць сапраўднае прозьвішча юнкора і дата, калі допіс пісаны.

Рэдактары: Іл. Барашка. Я. Галодка.

Менск. 1-я дзярж. друк. Зак. № 3586. Галоўлітбел № 20051.

# Навука і тэхніка

## Наш спадарожнік—месяц.

Ці далёка да месяца?

Месяц ёсьць самае блізкае к нам нябеснае сьвяціла.

Месяц знаходзіцца на адлегласьці ад зямлі ўсяго 360.000 вёрст.

Такім чынам, калі мы ўявім сабе, што між зямлёю і месяцам праведзена чыгунка, то пасажырскі цягнік, які робіць 60 вёрст у час, мог-бы праехаць гэтую адлегласьць у 250 сутак.

### Што ўяўляе з сябе месяц.

Месяц ўяўляе з сябе вялікую цёмную і непраглядную кулю, як і наша зямля, толькі ў шмат разоў меншы яе. Куля месяца амаль што ў 50 раз меншая за кулю зямлі па сваёй абыйме.

Калі ўзяць мяшок і набіць у яго 50 штук аднолькавых яблык, то мы атрымаем прыклад, у колькі разоў зямля большая за месяц: мяшок з яблыкамі будзе ўяўляць з сябе зямлю, а адзін яблык—месяц.

У добры палявы бінокль, а яшчэ лепш у тэлескоп, відаць на месяцы горы, якія ляжаць большаю часткаю кольцамі і напамінаюць нам нашыя вульканы.

Гэтыя горы на месяцы называюцца кратарамі.

Вяршыні кратараў вельмі ярка блішчаць, асьветленыя сонцам, ад гор падае цень. Нізкія месцы блішчаць больш слабей. У розных мясцох паверхні месяца наглядаюцца расколацiны.

На месяцы няма такое атмосфэры (паветра), як у нас на зямлі. Няма таксама і вады ў вольным, вадкім стане, у выглядзе рэк або мораў, як у нас на зямлі. Але затое там павінна быць вялікая розьніца паміж тэмпэратураю дня і ночы.

Зьмена дня і ночы на месяцы, як і на зямлі адбываецца ад вярчэньня месяца вакол свае восі. Толькі вярчэньне гэтае куды больш павольнае, чым земнае кулі. Месяц робіць адзін зварот вакол свае восі раз у працягу месяцу (дакладней у $29^1/_2$ сутак), пры гэтым 15 сутак цягнецца ноч, і столькі-ж часу дзень. За доўгую месяцавую ноч паверхня месяца страшэнна халадзее, затое ў працягу такога-ж доўгага дню паверхня страшэнна награваецца і расколваецца.

Дзень і ноч на месяцы надыходзяць зразу, ніякіх змрокаў ці зорак там ня бывае, затым што няма паветра.

Над месяцам няма блакітнага неба, затым што блакітны колер неба залежыць ад паветра. Уся акаляючая прастора зусім чорная.

У доўгую месяцавую ноч на чорным месяцавым небе відаць наша красуня зямля, якая сьвеціць зеленавата-чырвоным сьвятлом, які ў некалькі разоў мацнейшы, чым сьвятло ад месяца.

Дабаўце да гэтага поўную адсутнасьць ветру, адсутнасьць якога-небудзь руху, паўнейшую векавую цішыню, затым што на месяцы няма паветра, няма жыцьця,—і вы атрымаеце некаторае ўяўленьне аб гэтым вялікім, халодным, бязжыцьцёвым месцы, якім зьяўляецца наша суседка—плянэта месяц.

### Зачым месяц сьвеціць.

Усякі ведае, што ўзяўшы люстра, можна ў сонечны дзень навесьці яркага „зайчыка“ на столь ці на сьцену, а калі на вочы, то нават і глядзець няможна.

Але-ж люстра само ня сьвеціць. Адкуль-жа ўзялося такое яркае сьвятло?

Вядома, ад сонца, шляхам адбіцьця сонечных праменьняў ад паверхні люстра. Гэтак сама і месяц сьвеціць не сваім сьвятлом (бо ён цёмны, як і зямля), а адбітым сонечным. А з тае прычыны, што паверхня месяца ня зусім гладкая, як у люстра, то і сьвятло яна адбівае куды больш слабей.

Вось зачым месяц сьвеціць горш, чым сонца, хоць ён незраўняна бліжэй к нам знаходзіцца, чым сонца.

З якое прычыны адбываюцца зацьменьні сонца і месяца?

Зямля і месяц ёсьць целы круглыя, цёмныя, непразорныя, якія з аднаго боку асьвятляюцца сонцам, а з процілеглага боку яны адкідаюць ад сябе цень у сусьветную прастору ў выглядзе доўгага кантаслупу.

Здараецца, што ў час маладзіку, г. е. калі месяц стаіць між сонцам і зямлёю, цень месяца можа папасьці на зямлю.

З тае прычыны, што месяц у 50 раз меншы за зямлю ды знаходзіцца ад яе пры тым на 360.000 вёрст, то ўсю зямлю сваёю ценьню месяц закрыць ня можа, а толькі вельмі невялікую частку.

У тым месцы на зямлі, дзе будзе цень месяца, сонца для вока назіральніка нянджана пачне закрывацца чорным кружком. Гэта і ёсьць сонечнае зацьменьне.

Сонечнае зацьменьне можа адбывацца толькі ў час маладзіку.

Бывае і так, што ў час поўня цень ад зямлі можа закрыць месяц, тады надыходзіць зацьменьне месяца.

Зацьменьне месяца адбываецца толькі ў час поўня, г. ё. калі знаходзіцца пазаду зямлі.

Зацьменьні паўтараюцца цераз кожныя 18 год і 10 ці 11 дзён. Гэты пэрыод дрэўнія астрономы назвалі „Сарос“. Сарос мае 6.585 сутак.

---

## З Ь М Е С Т.

**ЦАНА АСОБНАГА №—10 КАП.**

415

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА ДА КАНЦА 1926 ГОДУ

## НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫОДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

# ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ГАЗЭТА

**Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.**

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—25 кап. На 6 мес.—1 р. 50 к. На 3 м-цы—75 к. На 1 год—3 р. — к.

**Гарантуецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.**

## „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“

**Дзіцячая часопісь ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР.**

Выдаецца адзін раз у м-ц, багата ілюстравана. „Б П“ зьмяшчае цэлы шэраг матэрыялаў, якія цікавяць дзяцей і памагаюць ім у працы (піонэр. організац.).

**У часопісі прымаюць удзел усе лепшыя літаратурныя сілы Бел.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—20 к. На 6 мес.—1 р. 20 к. На 3 м-цы—60 кап. На 1 год—2 руб. 40 кап.

**Часопісь, апрача гэтага, прадаецца ва ўсіх кнігарнях і кіосках Дзярж. Выд. Бел.**

**Ці падпісаліся на ілюстраваную часопісь сялянскай моладзі**

## „МАЛАДЫ АРАТЫ“

самую пашыраную і самую танную беларусскую двухтыднёвую часопісь.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“ на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб політыцы, мае сталы літаратурны аддзел, сельска-гаспадарчы, высьвятляе жыцьце вескі, друкуючы допісы вясковай моладзі, а такжа жыцьце і працу гарадзкой моладзі, зьмяшчае п'есы, песьні, частушкі, загадкі, шарады і гульні, аддзел гумару, дае парады моладзі — што чытаць, мае навукова-тэхнічны аддзел з практычным сельска-гаспадарчым ухілам і інш.**

У часопісі супрацоўнічаюць звыш 200 сталых корэспондэнтаў, а таксама беларускія політычныя і літаратурн. дзеячы.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На 1 м-ц —15 к. | На 6 м-цаў—90 к.
На 3 м-цы—45 к. | На 1 год 1 р. 80 к.

Згодна умовы з Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі і з экспэдыцыяй канторы „Звезды“ гарантуецца акуратны выхад і дасылка часопісі ва ўсе гарады і вёскі. Апрача падпіскі часопісь патрабуйце ў кіосках і газэтчыкаў.

Кожны вясковы комсамолец павінен абавязкова чытаць „Малады Араты“

## „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“

**Штодыднёвая газэта яўрэйскай моладзі гор. і мястэчка.**

**Орган Яўрэйскай Сэкцыі ЦК ЛКСМБ**

на сваіх старонках асьвятляе жыцьцё яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка, налічвае вялікі лік уласных дапісчыкаў, зьмяшчае на сваіх старонках кіраўнічы матэрыял.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

| | |
|---|---|
| На 1 м-ц —15 кап. | На 6 м-цаў 90 кап. |
| На 3 м-цы—45 кап. | На 1 год 1 р. 80 кап. |

**Яўрэйская моладзь павінна чытаць „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“.**

## „ЮНГЕР ПІОНЭР“

**піонэрская газэта на яўрэйскай мове**

**Выходзіць чатыры разы на месяц.**

Програма газэты: кіраўнічыя артыкулы па піонэрскому пытаньню, навіны са ўсяго сьвету, літаратурны матэрыял, гульні, загадкі, рэбусы, асьвятленьне жыцьця яўрэйск. школ і піонэрскіх атрадаў.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

| | |
|---|---|
| На 1 м-ц —10 кап. | На 6 м-цаў—60 кап. |
| На 3 м-цы—30 кап. | На 1 год 1 р. 20 кап. |

ПАДПІСКА НА ВЫДАНЬНІ ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“ ПРЫМАЕЦЦА ПРАЗ ЯЧЭЙКАВЫХ УПОЎНАВАЖАНЫХ: У ГАЛОЎНАЙ КАНТОРЫ „ЗВЕЗДЫ“ (МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63). УВА ЎСІХ ПАШТОВЫХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ, УВА ЎСІХ АДДЗЯЛЕНЬНЯХ І АГЕНЦТВАХ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА.

**Адрэс рэдакцый усіх памянёных выданьняў: Менск, Комсамольская 25, тэл. 903.**

